*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 50(384) 23 СНЕЖНЯ 1998 г.**




*З Калядамі Цябе, Вялікі Беларускі Народ!*

## Беларусь . Гуманітарнае супрацоўніцтва.

***16 снежня ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі адчынілася фотавыстава Міжнароднага Камітэту Чырвонага Крыжа "Людзі і войны".***

Менск, 16 снежня ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі (Палац мастацтваў) адчынілася фотавыстава, арганізаваная Міжнародным Камітэтам Чырвонага Крыжа (МКЧК) і Беларускім Таварыствам Чырвонага Крыжа (БТЧК). Экспазіцыі, у якіх змешчана 140 фотакартак з архіваў МКЧК, адзнятых у 62 краінах свету, дазволіць не толькі паказаць лёс ахвяраў вайны, але і ўшанаваць іх памяць, а таксама выказаць захапленне самаахвярнасці тых, хто спяшаецца ім на дапамогу.

Выступаючы на прысвечанай гэтай падзеі прэс-канферэнцыі, якая адбылася 10 снежня ў Грамадскім прэс-цэнтры рэспубліканскага Дома прэсы, дэлегат маскоўскага прадстаўніцтва МКЧК Вікторыя Кетлефф (Вялікабрытанія) адзначыла, што выстава паказвае ўніверсальны твар вайны, дзе людзі страчваюць не толькі душэўны спакой, дом і сям'ю, але і чалавечую вартасць. "Твары мацярок у Сараеве і Чачне гэткія ж смутныя як і твары афганскіх мацярок", — заўважыла В.Кетлефф, якая была дэлегатам МКЧК у Босніі і Герцагавіне, а таксама ў Чачні. Як вядома, дэлегаты МКЧК, якія на вайне з"яўляюцца сваеасаблівымі"воінамі трэцяга фронту, прызваныя аблегчыць ужыванне сілы, узвесці яго ў рамкі агульна-прынятых міжнародных правілаў і зрабіць больш гуманным.

"На жаль на гэтай выставе не змешчаны фотадакументы, якія адлюстроўваюць людскія страты былогаССР у перыяд Другой сусветнай вайны", — падкрэсліла Вікторыя Кетлефф. Гэта звязана з тым, што СССР не падпісаў Трэцюю Жэнеўскую Канвенцыю 1929 г. аб абароне ваеннапалонных і МКЧК не здолеў выканаць ролю на гэтым тэатры ваенных дзеянняў. У рамках выставы "Людзі і войны " адбудзецца дэманстрацыя фільма "Жорсткі Мораіт", прысвечанага рэалізацыі міжнароднага гуманітарнага права ў гады англа-бурскай вайны, абмеркаванне кнігі французскага лекара Марселя Жуню "Ваяр без зброі", у якой распавядаецца аб працы аднаго з дэлегатаў МКЧК у 1939-1945 г.г., конкурс малюнкаў і лозунгаў для старшакласнікаў "Зробім свет дабрэйшым". Выстава працягнецца да 29 снежня.

Даведка БелаПАН. Папярэдні МКЧК "Міжнародны камітэт дапамогі параненым" быў створаны 17 лютага 1863 г. па ініцыятыве швейцарца Анры Дзюнана, узрушанага жорсткай рэчаіснасцю бітвы французаў і італьянцаў супраць аўстрыйскіх акупантаў каля італьянскага паселішчаСальферына, у якой 24 чэрвеня 1859 г. за некалькі гадзінаў загінула 40 тысяч чалавек. СённяМКЧК аб'ядноўвае 175 нацыянальных таварыстваў. 1 лістапада 1995г. БТЧК прызнана 168-ым сябрам МКЧК.

*Марат Гаравы, БелаПАН.*

## Непаразуменне ў шляхетным сямействе беларускай незалежнай прэсы

19 снежня ў Менску адбыўся з'езд заснавальнікаў, выдаўцоў, рэдактараў і г.д. недзяржаўных рэгіяналыных выданняў Беларусі. Мэтай з'езду было стварэнне "Асацыяцыі выдаўцоў, заснавальнікаў і кіраўнікоў беларускай рэгіянальнай прэсы". З'езд закончыўся поўным правалам. Прагаласаваўшы за стварэнне асацыяцыі дэлегаты не сышліся ў думках адносна аднаго пункта статута. Ядро прадстаўнікоў зарэгістраваных выданняў, а іх было 19, настойвала на тым, каб правамоцнымі сябрамі асацыяцыі былі толькі зарэгістраванныя СМІ, і якія выходзяць не радзей 1 разу на 2 месяцы. Астатнім давалася права дарадчага голасу. Абсалютная большасць прадстаўнікоў незарэгістраваных выданняў, 22 выданні, не пагадзілася з такой пазіцыяй. Калі перыядычнасць асаблівых спрэчак не выклікала, то факт рэгістрацыі органамі сённяшняга рэжыму незалежных, у большасці сваёй апазіцыйных выданняў, на думку дэлегатаў ніяк не можа быць перашкодай для раўнапраўнага сяброўства ў асацыяцыі.

Асноўная заслуга ў зрыве з'езду належыць рабочай групе, якая была створана 3 месяцы назад, і персанальна Таісе Бандарэнка, старшыні беларускай філіі амерыканскай арганізацыі IREX. Гэтая экстравагантная паненка на самым пачатку паседжання заявіла, што выжане ўсіх з памяшкання (з'езд прайходзіў у сядзібе IREX), калі дэлегаты будуць галасаваць не так, як яна скажа. У далейшым са згоды старшыні яна пастаянна, парушаючы рэгламент, асой кідалася на кожнага апанента, заняўшы сваім лямантам добрую палову працоўнага часу. Галасаванне па статуту дало наступныя вынікі. За дыскрымінацыйны статут прагаласавала ўсяго 14 чалавек. Тады старшыня адмовіўся ставіць на галасаванне папраўку і аб'явіў паседжанне закрытым. Большасць дэлегатаў правяла кароткі сход і абрала новы аргкамітэт па падрыхтоўцы новага з'езду.

**Пазіцыя "Нашага слова".**

*Нашая газета па ўсіх параметрах трапляла ў асацыяцыю, але ўлічваючы, што дыскрымінацыйны статут адсякаў ад паўнапраўнага ўдзелу ў асацыяцыі беларускамоўныя і адраджэнцкія ў масе сваёй выданні, хай сабе і невялікія, але больш карысныя для беларускай нацыянальнай справы, чым расейскамоўныя і лаяльныя рэжыму СМІ, якія таму і без перашкод рэгіструюцца, што падпяваюць уладам, я, Станіслаў Суднік, рэдактар газеты "Наша слова" выступіў супраць дыскрымінацыі малых і не зарэгістраваных выданняў. Я галасаваў супраць такога статута і ўвайшоў у аргкамітэт па падрыхтоўцы новага з'езду.*

***Станіслаў Суднік.***

## Дырэктар нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Францішка Скарыны Адам Мальдзіс выпраўлены на пенсію

Менск, 2 снежня. Дырэктар Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Францішка Скарыны, доктар філалагічных навук, прафесар Адам Мальдзіс выпраўлены на пенсію. Як вядома, стварэнне і дзейнасць цэнтра былі непарыўна звязаны з ягоным імем.

Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа Адам Мальдзіс вядомы як таленавіты літаратуразнаўца, крытык і перакладчык, даследчык беларускай літаратуры ХУІІ - ХІХ стагоддзяў, беларуска-польскіх і беларуска-летувіскіх літаратурных узаемасувязяў. Яго працы адрозніваюцца багаццем фактычнага матэрыялу, часцяком упершыню ўведзенага ў навуковы зварот, аргументаванасцю, акрэсленасцю і жывасцю стылю і выкладання. Кнігі, напісаныя А.Мальдзісам, даўно сталі бібліяграфічнай рэдкасцю.

Новым дырэктарам прызначана кандыдат філалагічных навук Любоў Канаплянік, якая дагэтуль займала пасаду галоўнага інспектара ў Міністэрстве адукацыі. Па словах Анатоля Слукі, памочніка міністра адукацыі краіны, Адам Мальдзіс выпраўлены на пенсію па ягонай жа просьбе.

Узяць каментар у самога прафесара БелаПАН не змог, таму што вучоны знаходзіцца ў службовай камандзіроўцы ў Польшчы па справах камісіі "Вяртанне" пры Беларускім фондзе культуры, якая займаецца праблемамі рэстытуцыі нацыянальнай культурна-гістарычнай спадчыны.

*Марат Гаравы, БелаПАН.*

## *Беларускія СМІ пра беларускую мову*

*Агляд і каментары Язэпа Палубяткі*

Лічу, што лепш за беларускую (мову —Я.П.) ніякая іншая не перадасць так пачуццяў беларуса, прыгажосці нашай зямлі. Апісаць прыроду, побыт, гумар народа Беларусі магчыма ў поўнай меры толькі родным словам. Сатырычныя і гумарыстычныя творы — іх вельмі любяць у народзе — набываюць непаўторны каларыт, калі напісаны па-беларуску. Незвычайна трапныя вобразы, выразы, злучэнні ззяюць іскрынкамі, перадаць іх на іншай мове проста немагчыма.

... Ніякія ўказы, дэкрэты і рэферэндумы не маюць ні маральнага, ні юрыдычнага права вырашаць лёс мовы!

**Мікалай Галавенчык**
**"Народная воля" 12.12.98г.**

*Немагчыма будаваць новы Беларускі Дом у Еўропе, калі ў ім будзе гучаць савецкая беларускае мова, мова, з якой нібы выцягнутыя кроў, душа народа, ягоная шматвяковая спадчына. Мы ведаем — без мінуўшчыны няма будучыні, дык навошта нам мова, у якой гэтае повязь адсутнічае. Любая нацыя пры развіцці мае апірышчам найперш нацыянальную традыцыю, культуру, перанятую ад продкаў — а галоўны посьбіт гэта менавіта мова дзядоў, менавіта дзядоў, а не наркамаў.*

***Баранавічы .У.Аніськевіч***
***"Наша Ніва" 14.12.98г.***

## АБ'ЯВА

Культурніцкае Аб'яднаньне Моладзі **"Будзіны"** пры падтрымцы Дабрачыннага Фонду **"Дзецям Чаонобыля"**, **Беларускае Асацыяцыі Журналістаў (БАЖ), Таварыства Беларускай Мовы (ТБМ) - (Менск)** Абвяччшае другі тур конкурсу "Наш Дом — Беларусь у ХХІ-м стагоддзі".
Да ўдзелу ў конкурсе запрашае дзяцей і падлеткаў ад 6-ці гадовага да выпускнога ўзросту.
Конкурс мае праходзіць у трох жанрах:
**1.Мастацтва 2. Паэзія 3. Проза.**
Запрашаем узяць удзел у пяці намінацыях з падтэмамі:
1. "Беларусь — наша Бацькаўшчына, наша Маці":
а) Край наш — дзівосны прыстанак загадак і цудаў. ( М.Гусоўскі)
б) Беларусь, прачынайся! Я цябе абуджаю. (Ул.Караткевіч)
2. "Беларусь — наш Дом, наш Храм":
а) Кінь вечны плач свой аб старонцы. (М.Багдановіч).
б) Беларусь! Ты ўсёй Зямлі акраса. (А.Русецкі)
3. "Беларусы — Еўрапейскі народ":
а) Дык жа ўцям! На Беларусі — жывуць Беларусы! (Я.Купала)
б) Беларусь, твой народ дачакаецца, залацістага, яснага дня! (М.Багдановіч).
4. " Абаронім наш дом — Беларусь!":
а) Над нашай Незалежнасцю лунае Касцюшкавага меча бласла-венне! (Р.Барадулін)
б) Асланяйце Беларусь Святую! Вечны той, хто родны Край ратуе! (Р.Барадулін)
5. " Выратуем Беларусь ад чарнобыльскае бяды":
а) Артыкул, верш, малюнак, аповед;
б) Ідэі, праграмы і праекты сацыяльнае абароны і падтрымкі "Дзяцей Чарнобыля".
Да конкурсу ў пятай намінацыі запрашаюцца студэнты ВНУ!
Падводзіць вынікі ІІ-га туру будзе аўтарытэтнае журы у складзе:
**СКЛАД ЖУРЫ:**
Рыгор Барадулін- народны паэт Беларусі (сустаршыня журы)
Генадзь Грушавы — прафесар ( сустаршыня журы)
Мастакі:
Аляксей Марачкін, Мікола Купава, Алесь Шатэрнік, Хведар Ладуцька, Яўген Кулік, Сяргей Крыштаповіч.
Паэты:
Сяржук Законнікаў, Генадзь Бураўкін, Міхась Скобла, Артур Вольскі.
Пісьменнікі:
Міхась Тычына, Уладзімір Арлоў, Васіль Сёмуха, Алесь Разанаў.
**ІДЭЯ КОНКУРСУ:**
Уладзімір Падгол, Лявон Баршчэўскі, Вітай Жагунь-Шаркоўскі, Хрысціна Сідун, Уладзь Лабковіч.
**Конкурс мае праходзіць з 1-га лістапада 1998 года па 30-га студзеня 1999 года.**
27-га лютага адбудзецца святочны фэст -узнагароджанне пераможцаў і віншаваньне ўдзельнікаў конкурсу.
Для пераможцаў прадугледжаныя ўзнагароды і каштоўныя прызы, для ўдзельнікаў заахвочвальныя падарункі.
Свае працы спадарства можа даслаць на адрас: а/с № 33, Менск-134, 220134, Беларусь
У мэтрыцы да працы, дасланы на конкурс, належыць пазначыць абавязкова:
— Адну з намінацыяў, да якой належыць праца;
— Адну з падтэмаў у гэтай намінацыі;
— Свой узрост;
— Хатні адрас, тэлефон (калі ёсць). Калектыўныя працы павінны мець спіс усіх удзельнікаў. Падайце таксама адрас вашай навучальнай установы.

**Чакаем Вашых працаў! Зычым Вам поспехаў!**
**З пашанай — арганізатары.**





Доктар гістарычных навук, прафесар Анатоль Грыцкевіч

# Савецкая Беларусь

## (Да 80-годдзя Беларускай ССР)

1 студзеня 1919 г. у Смаленску была абвешчана Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, якая была адным з дзяржаўных утварэнняў на тэрыторыі Беларусі і якая праіснавала толькі два месяцы. Тым не менш у бальшавіцкай прапагандзе заўсёды падкрэслівалася, што як БССР пачалася ў 1919 г., так неперарыўна існавала і існуе (а праз тры гады як састаўная і неад'емная частка Савецкага Саюза). Савецкія, у тым ліку шмат хто з цяперашніх беларускіх гісторыкаў, па-ранейшаму так тлумачыць тагачасныя падзеі. Гэтыя гісторыкі ўсяляк даказваюць, што да 1 студзеня 1919 г, ўвогуле ніякай дзяржаўнасці ў беларускага народа не было, і толькі партыя бальшавікоў і савецкая ўлада далі беларускаму народу дзяржаўнасць, за што ён навінен быць вечна ўдзячным.

Сапраўды ж аднаўленне беларускай дзяржаўнасці (пасля страты яе ў канцы XVIII ст. у выніку захопу тэрыторыі Беларусі Расейскай імперыяй) адбылося 25 сакавіка 1918 года, калі была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка, якая Актам 25 сакавіка парвала ўсе дзяржаўныя сувязі з Расеяй і тым самым сталася незалежнай. Ні бальшавіцкае кіраўніцтва Заходняй вобласці ( з цэнтрам у Смаленску), якое фармальна лічыла сябе уладай на Беларусі, акупаванай тады нямецкімі войскамі, ні кіраўніцтва партыі бальшавікоў у Маскве на чале з Ул.Ульянавым-Леніным не лічылі Беларусь незалежнай, а смаленскае кіраўніцтва на чале з А. Мясніковым ўвогуле не лічыла беларусаў народам, даказваючы, як і ў свой час царскія ўлады, што гэта толькі частка расейскага народа.

Пасля фактычнай капітуляцыі Германіі ў канцы першай сусветнай вайны германскія войскі ў Беларусі, пад націскам сваіх салдацкіх саветаў, пачалі паволі і планамерна адступаць з нашай тэрыторыі. Услед за нямецкімі войскамі таксама павольна тэрыторыю Беларусі займалі войскі Чырвонай арміі. Пакольні нямецкія акупанты, згодна з умовамі Берасцейскай мірнай дамовы паміж Германіяй і Савецкай Расеяй ад 3 сакавіка 1918 г., не дазволілі ўраду БНР стварыць беларускае войска, Рада і ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі вымушаны былі эміграваць у Летуву (і часткова ў Гародню, ў якой немцы затрымаліся да вясны 1919г.). Чырвоная армія прасоўвалася і ў Прыбалтыку. Там утвараліся савецкія ўрады і абвяшчаліся савецкія рэспублікі. Устала пытанне, ці ствараць такі ўрад у Беларусі, ці пакінуць яе губерні ў складзе Расейскай Савецкай Федэрацыі. Супраць утварэння Беларускай ССР выступала бальшавіцкае кіраўніцтва ў Смаленску і сам А. Мясніковў.

Аднак ў Маскве вырашылі іначай. ЦК партыі бальшавікоў і сам Ул. Ленін праводзілі палітыку экспарту рэвалюцыі ў Еўропу. Каб не абцяжарваць і так цяжкае становішча Савецкай Расеі ва ўмовах грамадзянскай вайны, было вырашана стварыць Беларускую Савецкую рэспубліку, цалкам падпарадкаваную Маскве і праз яе весці наступ на захад — на Польшчу і далей у Еўропу. Фактычна тэрыторыя Беларусі спатрэбілася бальшавікам для той жа мэты, якую ставіў перад сабою царскі ўрад: захаваць Беларусь як плацдарм для наступу ў Еўропу. Так было падрыхтавана абвяшчэнне "буфернай" рэспублікі.

Таму маланкава было прынята рашэнне, дадзены загад у Смаленск А. Мяснікову, які рэзка змяніў сваю пазіцыю, але па-ранейшаму стаўіўся варожа да Беларусі. Гэтаму чалавеку і было даручана арганізаваць абвяшчэнне Беларускай савецкай дзяржавы.

Усё было зроблена без лішніх цырымоній і нават без неабходных фармальнасцяў. Ніхто не звярнуў увагу на дзіўны факт: абвяшчэнне новай дзяржавы і рашэнне аб яе стварэнні было даручана не з'езду Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў, якім звычайна прыкрывалася дыктатура кіраўніцтва партыі бальшавікоў, а абласной партыйнай канферэнцыі бальшавікоў Заходняй вобласці (абласная партыйная арганізацыя, у адрозненне ад тэрыторыі, называлася Паўночна-Заходняй). VI абласная канферэнцыя бальшавікоў, якая адбывалася ў Смаленску 30-31 снежня 1918 г., адразу абвясціла сябе 1 з'ездам Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі, хаця сама рэспубліка 30 снежня 1918 г. яшчэ не была абвешчана. А потым у рэзалюцыі дэлегаты запісалі6 "лічыць неабходным абвясціць самастойную сацыялістычную рэспубліку Беларусі". У склад новай рэспублікі былі ўключаны тэрыторыі Віцебскай, Гродзенскай, Менскай і Магілёўскай губерань, беларускія паветы Віленскай і Ковенскай губерань, населеныя беларусамі паветы Смаленскай губерні (акрамя самых усходніх, напрыклад, Вяземскага і Гжэцкага), а таксама чатыры паветы Чарнігаўскай губерні: Суражскі, Мглінскі, Старадубскі і Навазыбкаўскі (цяпер гэта Заходняя частка Бранскай вобласці). Такім чынам, граніца новастворанай савецкай рэспублікі Беларусі паўтарыла граніцу Беларускай Народнай Рэспублікі ў яе этнічных межах. Дарэчы, гэтыя межы адпавядалі этнаграфічным картам Расійскай імперыі і вынікам усерасійскага перапісу 1897 года. У дарэвалюцыйным энцыклапедычным слоўніку Брокгаўза і Ефрона ў артыкулах "Смаленская губерня" і "Чарнігаўская губерня" таксама гаворыцца пра суцэльнае беларускае насельніцтва ў большасці паветаў Смаленскай губерні і ў Паўночна-Заходніх паветах Чарнігаўскай губерні.

На I з'ездзе КП(б)Б быў утвораны ўрад БССР (а яе яшчэ не існавала), куды па загаду Масквы было ўключана некалькі бальшавікоў-беларусаў. Часовы рабоча-сялянскі ўрад Беларусі быў выбраны дэлегатамі з'езда, а старшынёй гэтага ўраду вызначылі бальшавіка-беларуса Змiцера Жылуновіча (Цішку Гартнага). Але Цэнтральнае бюро КП(б)Б, якое выбраў з'езд і якое фактычна кіравала Беларуссю, узначаліў А.Мяснікоў.

Урэшце 1 студзеня 1919 г. маніфестам часовага савецкага ўраду была абвешчана БССР. Хоць маніфест быў выдадзены ў Смаленску, пад ім стаяла дата і месца выдання "1-го января 1919 года, город Минск". Нават гэты афіцыйны дакумент на расейскай мове быў з падманам.

Аднак суверэнная дзяржава створана не была. Не было і нацыянальна-дэмакратычнай палітыкі, абвешчанай раней БНР. Урад БССР праз некалькі дзён пераехаў у Менск, які і стаўся сталіцай гэтай дзяржавы. У Менску ён цалкам падпарадкаваўся Цэнтральнаму бюро КП(б)Б і заставаўся ў поўным падпарадкаванні ЦК РКП(б) і Саўнаркама РСФСР. На Беларусі ўсталявалася дыктатура камуністычнага кіраўніцтва і яго партыі. Пачалася барацьба з усім беларускім нацыяльна-культурным рухам.

А ў Маскве ўжо 16 студзеня 1919 г. ЦК РКП(б) на чале з Ул.Леніным прыняў пастанову, паводле якой у складзе РСФСР заставаліся тэрыторыі Віцебскай, Магілёўскай і Смаленскай губерняў, а таксама паветы Чарнігаўскай губерні, што спачатку перадаваліся Беларусі. Адным росчыркам пяра граніца Беларусі была перанесена на сотні кіламетраў на захад — да Барысаўскага і Бабруйскага паветаў.

На Першым Усебеларускім з'ездзе Саветаў у Менску, які адбыўся 2-3 лютага 1919 г., была прынята Канстытуцыя Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусі (ССРБ) і выбраны патсянны орган савецкай улады — Цэнтральны Выканаўчы Камітэт ССРБ. З'езд саветаў пацвердзіў адрыў усходніх беларускіх губерань ад ССРБ. У склад Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта ССРБ не былі выбраны бальшавікі-беларусы. Частка з іх была арыштаваная, а адзін з іх — Ф. Шантыр — у 1920 г. расстраляны. Астатнія былі рэпрэсаваныя пазней. Старшыня Усерасейскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Я.М.Свярдлоў абвесціў пастанову прэзідыуму УЦВК "аб прызнанні незалежнасці Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі", але ў тэксце гэтай пастановы было адразу заяўлена: "Прэзідыум Усерасійскага Выканаўчага Камітэту вітае аб'яднанне, што намецілася, працоўных мас Беларусі з працоўным народам Літвы..." Я. М. Свярдлоў патрабаваў аб'яднання ССРБ з Літоўскай ССР, якая займала самы ўсходні акрайчык Летувы са сталіцай у Вільні і марыянетачны ўрад якой абапіраўся на расейскую Чырвоную армію, такім жа чынам як і марыянетачны ўрад ССРБ. Першы з'езд саветаў ССРБ прыняў "Дэкларацыю аб ўстанаўленні федэратыўнай сувязі паміж Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай і РСФСР". Увогуле яны прымалі ўсе рашэнні, якія ім дыктавала партыя бальшавікоў.

2 лютага 1919 г. Цэнтральнае бюро КП(б)Б з удзелам старшыні УЦВК Я. М.Свярдлова, старшыні Літоўскага савецкага ўрада В.С.Міцкявічуса-Капсукаса і прадстаўнікоў партыйных і савецкіх органаў БССР і Літ.ССР абмеркавала пытанне пра аб'яднанне гэтых савецкіх рэспублік у адну — Літоўска-Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку (Літбел). Па загаду Масквы 27 лютага 1919 г. аб'яднанае пасяджэнне ЦВК Літоўскай ССР і ЦВК Беларускай ССР аднагалосна (іначай і быць не магло!) прыняло рашэнне аб стварэнні Савецкай Сацыялістычнай Літвы і Беларусі. У склад Літбел увайшлі Менская, Гарадзенская, Віленская і Ковенская губерні (у летувіскіх губернях толькі ўсходнія акрайчыкі, на іншай тэрыторыі Летувы са сталіцай у Коўне быў нацыянальны ўрад), а таксама частка Сувалкаўскай губерні. У кіраўніцтва новай рэспублікі беларускія дзеячы ўвогуле не ўвайшлі. Гэта была тыповая марыянетачная савецкая рэспубліка. Далейшы лёс Літбел вядомы. У жніўні 1919 г. яе тэрыторыя была занята польскімі войскамі. Урад Літбел самаліквідаваўся, і ні назва гэтай рэспублікі, ні яна сама больш у гісторыі не ўсплывалі. Цяпер маскоўскаму кіраўніцтву і федэрацыя была непатрэбная.

Так скончылася гісторыя БССР, абвешчанай 1 студзеня 1919 г. і скончышая сваё існаванне 27 лютага 1919 г. Далей урад Расейскай Федэрацыі лічыў гэтую тэрыторыю расейскай, а не беларускай. Гэта праявілася падчас наступу войск Заходняга фронта Чырвонай арміі ў ліпені 1920 г. на пазіцыі польскіх войск. Каб мець саюзніка супраць Польшчы і разлічваючы на летувіскую армію (якая тады складалася з дзвюх дзівізій), савецкі ўрад Ул.Леніна заключыў з урадам Летувіскай дэмакратычнай рэспублікі (яе сталіца была ў Коўне) Мірны дагавор (12 ліпеня 1920г.), у артыкуле 2-м якога была вызначана "дзяржаўная мяжа паміж Расіяй і Летувой" (Документы внешней политики СССР. Москва, 1959, Том 3, С.29,31 і карта да дагавору). Расейская мяжа ішла на поўдзень ад Гародні, ад упадзення ракі Свіслач у Нёман далей на ўсход па Нёману, потым па рэках Бярэзіне (прытоку Нёмана), Іслачы, Валожынцы. Далей на поўнач такім чынам, што Валожын заставаўся ў Расеі, мяжа ішла ля заходніх вуліц Маладзечна, у некалькіх кіламетрах на Захад ад Вілейкі, да Мядзелі і далей на поўнач ажно да Друі.

Такім чынам, Расея аддавала Летуве Вільню, Гародню, Ліду, Іўе, Ашмяны, Смаргонь, Паставы, Відзы і Браслаў. Пра Беларусь расейскі Савецкі ўрад і не згадаў, нават пра БССР, нават пра Літбел. Тэрыторыя Беларусі была патрэбная яму як разменная манета.

Калі пачаўся паспяховы наступ савецкіх войскаў у Беларусі (Менск быў заняты 11 ліпеня 1920 года, а да канца ліпеня бяла занята ўся Беларусь, уключна з Вільняй), савецкі ўрад вырашыў не аддаваць гэтую тэрыторыю Летуве (можа і зусім не збіраўся аддаваць), тлумачыўшы гэта неабходнасцю забяспечэння сваіх войскаў на камунікацыях на гэтай тэрыторыі. Калі ўжо Чырвоная армія адступала ад Варшавы, летувіская армія заняла Вільню, пагражаючы ўдарыць па свайму саюзніку.

У канцы ліпеня 1920 г. зноўтакі з палітычных меркаванняў стварэння "буфернай" рэспублікі (і пад націскам бальшавікоў-беларусаў) савецкі ўрад вырашыў зноў абвясціць ССРБ. Савецкая рэспубліка Беларусі была абвешчана ў Менску 31 ліпеня 1920 г. з усходнімі межамі за Барысавым ля Бабруйска і Мазыра. Гэта была такая ж несамастойная, падпарадкаваная Маскве, рэспубліка, як і першая БССР. Калі пачаліся мірныя перамовы паміж польскай і савецкай дэлегацыяй ў Рызе, савецкая дэлегацыя ўвогуле прапанавала Польшчы ўсю тэрыторыю ССРБ узамен за тэрыторыю на Украіне. Кіраўнік ССРБ А. Чарвякоў не быў дапушчаны на мірныя перамовы . ССРБ магла быць "зачыненa" бальшавіцкім кіраўніцтвам у Маскве яшчэ раз. Аднак далейшае існаванне Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь выратавала ... польская дэлегацыя. Яна адмовілася ад такога гойнага падарунку, бо разумела, што знаходжанне большасці беларускага народа ў складзе Польскай дзяржавы можа прывесці да яе развалу. Таму, калі 12 кастрычніка 1920 г. у Рызе было падпісана перамір'е і папярэднія ўмовы міру, Польшча здаволілася Заходняй Беларуссю і прызнала маленькую ССРБ, што складалася з шасці паветаў былой Менскай губерні і налічвала паўтара мільёны жыхароў.

Менавіта з 31 ліпеня 1920 г. існавала ССРБ (пазней БССР), а не з 1 студзеня 1919 года, калі яна толькі прамільгнула ў палітыцы дыктатараў бальшавіцкай Расеі.

14 снежня 1998 г.
Менск.




1.Тэрыторыя БССР пасля Рыжскай дамовы (1921г.) Пра гэтую БССР Якуб Колас з'едліва напісаў:

**"Далі шэсць паветаў,**
**Дзякуй і за гэта"**

*(Цытата па памяці)*

2. Тэрыторыя, вернутая ў склад БССР Расейскай Федэрацыяй 3 сакавіка 1924 г.

3. Тэрыторыя, вернутая ў склад БССР Расейскай Федэрацыяй 6 снежня 1926 г.



ХУІ зьезду Беларускага саюза мастакоў

## ЗВАРОТ ДА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ КРАІНЫ

Свабода і незалежнасць — найвялікшыя ў свеце каштоўнасці для кожнай цывілізаванай нацыі. Яны гарантуюць кожнаму народу этнічнае выжыванне, нацыянальна-культурнае развіццё, гістарычную будучыню. Таму гэтак упарта за сваю нацыянальную самаідэнтыфікацыю змагаюцца ірландцы і баскі, чачэнцы і курды, харваты ды іншыя малыя народы сьвету.

Не тое сёння назіраецца ў нашай краіне. Народ, які дэнацыяналізаваўся стагоддзямі расейскага панавання, дзесяцігоддзямі бальшавіцкага тэрору, калі была вынішчана найбольш дзейсная нацыянальна - сведчая яго частка, у першую чаргу інтэлігенцыя, — у 1990 годзе дамогся аднаўлення дзяржаўнай незалежнасці, але сёння зноў апынуўся на мяжы нацыянальна-культурнай катастрофы і страты дзяржаўнасці.

На нашай Бацькаўшчыне пасля навязаных народу ганебных рэферэндумаў і канстытуцыйнага перавароту ўсталяваўся дыктатарскі рэжым, вынікам якога стала знішчэнне парасткаў дэжмакратыі, палітычныя рэпрэсіі, міжнародная ізаляцыя, разбурэнне эканомікі, галеча і жабрацтва, эміграцыя з краіны.

Дзяржаўнай ідэалогіяй рэжыму з'яўляецца пан-славянскі расізм праваслаўнага тыпу і расейскі шавінізм. Абвешчана татальная вайна ўсяму беларускаму. Ліквідуюцца беларускамоўныя школы і класы, перапісваюцца школьныя падручнікі гісторыі і літаратуры, даведнікі, энцыклапедыі, забаронены і пераследуюцца нацыянальныя сімвалы — герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сьцяг, з выдавецкіх планаў выкідваюцца творы няўгодных рэжыму літаратараў. З мастацкіх выставаў выдаляюцца "крамольныя" творы мастакоў. Сродкі масавай інфармацыі ўзурпаваныя рэжымам. Аднаўляюцца бальшавіцкія святы і традыцыі, у краіну вяртаецца камуністычная ідэалогія. "Інтэграцыя" з Расеяй, а дакладней — інкарпарацыя ў шавіністычную імперыю канчаткова асімілюе і русіфікуе беларусаў.

Над намі вісіць рэальная пагроза ў надыходзячым XXI-ым стагоддзі знікнуць з палітычнай карты свету як дзяржаве і з этнічнай — як нацыі.

Ва ўмовах, калі старэйшае пакаленне нашага народу амаль цалкам камунізаванае і саветызаванае, сярэдняе — гранічна люмпенізаванае, рабочы клас нацыянальна абыякавы і дэмаралізаваны, сялянства ж, пазбаўленае пачуцця ўласніка-гаспадара, цалкам залежыць ад чырвоных памешчыкаў, важнейшую ролю павінна і можа адыграць нацыянальная інтэлігенцыя, асабліва творчая — мастакі, пісьменьнікі і паэты, музыканты і архітэктары, акцёры і рэжысёры.

На жаль, у сённяшніх экстрымальных для нацыі ўмовах, большасць інтэлігенцыі — у стане дзіўнай летаргіі, пасіўнага маўклівага чакання. Пэўная ж яе частка, і гэта самае ганебнае, здрадзіла нацыянальным ідэалам і адкрыта прыслужвае рэжыму.

Мы не гаворым пра тых, што з'явіліся на Беларусі з іншых абсягаў былой імперыі, зрабілі тут бліскучую кар'еру, "абнародзіліся" і "абзаслужыліся" і адчуваюць сябе гаспадарамі ў краіне. Яны — вялікія інтэрнацыяналісты і найпершыя інтэгратары.

Мы маем на ўвазе тутэйшых, тых нашых калегаў па культуры, што сталі вернымі паслугачамі рэжыму. Яны прамаўляюць панегірыкі, ствараюць хвалебныя вершы і песьні, кінастужкі і відэакліпы, малююць партрэты і ткуць габелены, славячы рэжым і яго першую асобу. Яны праектуюць бальшавіцкую сімволіку для краіны, пяюць, граюць і скачуць на апякуемых уладаю фестывалях і святочных імпрэзах, паслухмяна нясуць творы на антыбеларускія інтэграцыйныя вернісажы, ахвотна ўваходзяць у прэзідэнцкую рэферэндумную агіткаманду і імпэтна адпрацоўваюць высокі давер; прымаюць узнагароды, прэміі і званні з рук таго, хто топча годнасць народа, публічна бэсціць і нішчыць мову, зняважае і нявечыць культуру, шальмуе яе выдатных дзеячоў.

Дык ці возьме на сябе беларуская інтэлігенцыя ролю настаўніка, выхаваўцеля, павадыра, які б прапанаваў раз'яднанаму, дэмаралізаванаму грамадству духоўныя і інтэлектуальныя арыенціры, дзяліўся б ведамі і досведам, натхняў прыкладам высокіх грамадзянскіх паводзінаў — найперш для нашай моладзі, той, што паспела адчуць глыток свабоды за некалькі гадоў адноснай дэмакратыі. Яна — гэтая моладзь — нашая гістарычная надзея. Яна здольная вярнуць ход падзеяў на Беларусі ў нармальнае гістарычнае рэчышча.

Ці стане сённяшняя беларуская інтэлігенцыя прадаўжальніцай пакаленняў асветнікаў свайго народу, змагароў за нацыянальную незалежнасьць на працягу тысячагадовай гісторыі Беларусі?

Будзьма ж годнымі нашых слаўных папярэднікаў!

Ратуйма Беларусь!

Для сябе. Для дзяцей. Для нашчадкаў.

***Рада творчай суполкі "Пагоня"***
***26.XI. 1998 г.***

Зварот быў рапаўсюджаны на ХУІ зьездзе БСМ.

## БЕЛАРУСКІ РЭСПУБЛІКАНСКІ ТЭАТР ЮНАГА ГЛЕДАЧА ГЯДЗІЦЕ Ў СТУДЗЕНІ

| | | |
|---|---|---|
| 2, 3, 4, 5, 6, 8, 9 | *А.Вольскі, М.Хадзько* НАВАВГОДНЯЕ ВЫПРАБАВАННЕ | 10.30, 13.30 |
| 10 | НАВАВГОДНЯЕ ВЫПРАБАВАННЕ | 10.30 |
| Каляднае прадстаўленне з гульнямі і забавамі | | |
| 13 | *Дэж. Радары* ЧАРОЎНАЕ ПАДАРОЖЖА ў НОЧ | 11.00 |
| 14, 27 | *С. Казлоў* ПАРАСЯ ЯКОЕ СПЯВАЕ | 11.00 |
| 15 | *Г.Палонскі* НІХТО НЕ ПАВЕРЫЦЬ | 11.00 |
| 20 | *М. Стэглік* КАЗАЧНЫ ДОМІК | 10.30, 13.30 |
| 21 | *С. Пракоф'ева, І.Такмакова* | 11.00 |
| 24 | ЧЫПАЛІНА І ЯГО СЯБРЫ | 11.00, 13.30 |
| 22 | *А. Хайт* ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ КАТА ЛЕАПОЛЬДА | 11.00, 13.30 |
| 23 | ДЗЕНЬ СЯМ'І — 11.00. Спектакль "Кот у ботах" | 12.00 |
| 28 | *В. Вута* СУПЕР ША | 11.00 |
| 29 | *С. Маршак* КОШЧЫН ДОМ | 11.00 |
| 30 | ДЗЕНЬ СЯМ"І — 11.00. Спектакль "Анчутка" | 12.00 |
| **ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ** | | |
| 10 | АНТЫГОНА. ГУЛЬНЯ З ЛЯЛЬКАМІ *(Паводле твораў Ж.Ануя і Сафокла)* | 18.00 |
| 16,17,31 | *Ф.Бернет* МАЛЕНЬКІ ЛОРД ФАЎНТЛЯРОЙ | 16.00 |
| 21 | *Ю.Кулік* НОЧ НА ІВАНА КУПАЛУ | 18.00 |
| 23 | *К. Гоцы* ШЧАСЛІВЫЯ ЖАБРАКІ | 18.00 |
| 29 | *У. Гібсан* СТВАРАЛЬНІЦА ЦУДУ | 18.00 |

**Мастацкі кіраўнік тэатра — Андрэй Андросік**

## Сталіца не забывае Ліду

11 лістапада ў Ліду завітаў вядомы беларускі бард Андрэй Мельнікаў і паэт, перакладчык Андрэй Хадановіч. Сустрэча адбылася ў чытальнай зале гарадской бібліятэкі імя Янкі Купалы. Андрэй Мельнікаў зрабіў невялікі экскурс у нашую гісторыю, пачынаючы з часоў Скарыны і заканчваючы нашымі днямі, пры тым усім у яго на кожную значную падзею ў нашай гісторыі знайшлося адлюстраванне у бардаўскай песні. Андрэй Хадановіч зрабіў імправізаваную прэзентацыюновага беларускага часопіса "ARCHE". Мяркуецца заснаваць фонд з такой назвай і фестываль. Андрэй Хадановіч прачытаў свае асабістыя вершы, а таксама вельмі ўдалыя, на маю думку, пераклады замежных аўтараў. Мне, напрыклад, вельмі спадабаўся пераклад з ірландскага паэта Уільяма Бадлера. Наогул, Андрэй Хадановіч робіць пераклады з некалькіх замежных моваў.

Добра гучаць у ягоным перакладзе вершы Нобелеўскага лаўрэата, польскага паэта Чэслава Мілаша.

Андрэй Мельнікаў распявёў пра фестываль "Гэта мы!", якіь адбыўся перад прэзентацыяй ў Менску часопіса "ARCHE". Пасля Ліды госці з Менску наведалі Бердаўскую сярэднюю школу.

***Лілея Сазанавец***

Нядаўна Ліду наведалі госці з Менску. Гэта былі: слынны паэт, класік беларускай літаратуры Рыгор Барадулін і вядомы бард Алесь Камоцкі. Рыгора Барадулі прадстаўляць не было патрэбы, бо з яго вершамі, эпіграмамі мы знаёмыя з дзяцінства. Яго вершы уваходзілі ( і ўваходзяць, на шчасце, дасёння) у школьную праграму. Не толькі беларусы маюць магчымасць спрычыніцца да паэзіі Рыгора Барадуліна. Ён вядомы і далёка за межамі нашай краіны. Ня гэтак даўно ён быў узнагароджаны вышэйшай латвійскай ўзнагародай.

Рыгор Барадулін прачытаў свае вершы, з гумарам адказаў на пытанні слухачоў.

Алесь Камоцкі распавёў пра агульны праект, над якім ён зараз працуе разам з Рыгорам Барадуліным. Справа ў тым, што на лірычныя вершы Рыгора Барадуліна Алесь Камоцкі зараз піша рамансы. Некаторыя з гэтых рамансаў і былі прапанаваныя слухачам. Дарэчы, яны былі вельмі добра ўспрынятыя, бо "рок" ці "метал" — гэта таксама добра, але калі - нікалі хочацца і нечага лірычнага.

Пасля сустрэчы ў Лідскім Доме культуры госці наведалі школу № 4.

***Лілея Сазанавец.***

# Наведайце медычны музей.

Аб гісторыі развіцця беларускай медыцыны можна даведацца, наведаўшы музей "Гісторыі развіцця медыцыны", які знаходзіцца ў медычнай бібліятэцы ў цэнтры Менска.

Вытокі медыцыны адшукваюцца ў першабытныя часы. Тады яна насіла вядзьмарскі, знахарскі характар. Не ведаючы рэальных прычын таго ці іншага захворвання, людзі верылі ў магічную чароўную моц талісманаў і абярэгаў, думаючы, што іх уладальнік выратуецца ад усіх няшчасцяў і захворванняў. У зале, прысвечанай гэтаму перыяду можна было ўбачыць рознай формы абярэгі - крыжападобныя, у выглядзе кольцоў, падвесак. Было прадстаўлена і шмат малюнкаў, на якіх адлюстраваны старухі-вядзьмаркі, загаворваючы хворых і гатуючы цаліцельны напой. Быў прадстаўлены і малюнак -рэканструкцыя старжытнага "Шпіталю", што размяшчаўся на беразе ракі. У гэтай жа зале знаходзіцца і ўнікальны макет чароўнага каменнага крыжа, які меў сілу адводзіць хваробы, даваў жанчынам пладавітасць (сапраўды камень - крыж знаходзіцца ў музеі каменняў).

Наступная зала расказвае наведвальнікам аб сярэднявяковай медыцыне. У гэты час прафесійную медыцынскую дапамогу аказвалі лекары. На стэндах можна пабачыць лекарскія кнігі, у якіх даваліся парады чым лепш лячыць тое ці іншае захворванне.

Але медыцынскую дапамогу аказвалі не толькі лекары, але і манахі. Яны збіралі і пераводзілі параненых і хворых, перавязвалі іх, аказвалі іншую медычную дапамогу. Прыкладна ў гэты ж час з'яўляюцца і сапрпаўдныя лекі, а разам з імі і аптэкары. Ужо з сярэднявечча аптэкі былі шырока распаўсюджаны ў гарадах Беларусі. Яны гандлявалі не толькі лекамі, але і заморскімі вырабамі — цукрам, цукатамі і г.д. Аптэкары былі высокаадукаванымі людзьмі, бо ў іншым выпадку аптэку трымаць не дазвалялася. У зале. прысвечанай гэтаму перыяду можна было ўбачыць шкляначкі рознай формы і памераў, скрыначкі, у якіх змяшчаліся лекі.

Прафесійныя дактары з'яўляюцца ў эпоху рэнесансу. Адным з самых вядомых дактароў — быў Францішак Скарына. Але нягледзячы на высокі ўзровень медыцыны, эпоха Адраджэння не ведала абязбальвальных сродкаў.

У гэты час, асабліва ў эпоху Асветы, пачынаюць масава з'яўляцца трактаты на медыцынскія тэмы. Копіі некаторых з гэтых кніг былі прадстаўлены ў экспазіцыі.

У 19 ст. масава адкрываюцца шпіталі і бальніцы, дзе працавалі спецыяльна падрыхтаваныя сёстры міласэрнасці.

Тут можна было ўбачыць розныя віды галаўных убораў медыцынскіх сясцёр, а таксама змешчаны фотаздымкі першых прафесійных лекараў. Цікава было паглядзець на доктарскі саквояж з неабходнымі ўрачы інструментамі. Экскурсавод цікава расказвае і аб розных захворваннях. Асабліва пашырана сярод сялян была хвароба валос — каўтун.

На мяжы 19-20 ст. з'яўляецца абсталяванне для лячэння зубоў — бормашына з педальным прывадам, якую можна было ўбачыць у экспазіцыі сярод экспанатаў.

У 1921 г., як факультэт БДУ быў заснаваны медыцынскі інстытут. У экспазіцыі можна было ўбачыць першыя падручнікі па розных медыцынскіх дысцыплінах, убачыць выкладчыкаў - урачоў, што пачыналі навучаць медыцынскім ведам.

У гэтай зале можна было ўбачыць форму ваенных медыкаў часоў ВАВ, іх санітарныя сумкі, дакументы, фотаздымкі.

Сучасны перыяд развіцця медыцыны прадстаўлены рэчамі, якія мы сення можам бачыць у клініках і бальніцах. (капельніцы і г.д.). Убачыць фотаздымкі тых, хто сёння плённа працуе ў гэтым накірунку. Сярод іх знаходзіцца і фотаздымак міністра аховы здароўя.

Такім чынам, музей знаёміць нас, сваіх наведвальнікаў, з асноўнымі этапамі развіцця медыцыны, медыцынскіх ведаў і думкі, з яе сучасным і мінулым, з яе здабыткамі.

***Надзея Паўлава***
***студэнтка БУК 305 група.***

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Людміла Дзіцэвіч, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Лілея Сазанавец, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гарадзенскага аблвыканкама.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 21. 12. 98 г.
Наклад 3000 асобнікаў. Замова № 3079.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 15 000 руб., 3 мес.- 45 000 руб.